# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ

**Выдае Епархіяльная Управа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Нью-Ёрку. Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі: "The Voice of the Church", 108 Wyckoff St., Brooklyn 1, New York, N. Y.**

**Tel.: ULster 2-7552** **Цана 50 цэнтаў**

**№ 19** **ВЯЛІКДЗЕНЬ, 1964** **ГОД 10**

**БОЖАЙ МІЛАСЬЦЮ**

СЬВЯШЧЭННЫ САБОР ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ

Да ўсечэснога Духавенства, прэпадобнага Манаства, і ўсіх багалюбівых вернікаў нашых на Чужыне й на Бацькаўшчыне прабываючых

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

„Бо УВАСКРОС Ты, Хрысьце Божа,
падараваўшы сьвету вялікую міласьць".
(Трапар 7-га Гласу).

**УЛЮБЛЕНЫЯ ДЗЕЦІ НАШЫЯ!**

Вялікі Дзень, або ВЯЛІКДЗЕНЬ! Так назваў наш пабожны народ гэты слаўны Дзень УВАСКРАСЕНЬНЯ ХРЫСТОВАГА. Так, адзіны гэта Дзень па велічы сваёй! Можна было-б навет проста сказаць: ДЗЕНЬ, бо ўсё іншае побач яго — НОЧ! Больш таго, толькі там жыцьцё, куды пранікае сьвятло гэтага Дня. А дзе няма сьвятла гэтага, там ня толькі ноч часовая, а ноч вечная, бо: сьмерць.

Пакуль не зазьзяла Боскае Сьвятло гэтае, жыцьцём на зямлі было чаканьне, спадзяваньне на гэты Дзень. А калі прыйшоў гэты Дзень, дык тое толькі зьяўляецца жыцьцём, што прасьвятляецца Ягоным Сьвятлом Невячэрнім, што стала імкнецца да Жывога Хрыста, Каторы Сваёю сьмерцю перамог няпраўду й самую сьмерць, і зрабіў нас спадкаемцамі жыцьця вечнага праз нашае жыцьцё у Ім. Таму Вялікдзень — нашая жывая супольнасьць зь Ім, нашая радасьць нявымоўная, ня толькі Ягоная, але й нашая перамога, па слову Яго: „Я ёсьць Уваскрасеньне й Жыцьцё, і хто веруе ў Мяне, хоць і памрэ, жыць будзе" (Іо. 11, 25).

І хто запраўды веруе ў Яго, Бога й Спаса нашага, хто ў жыцьці сваім злучыўся зь Ім, прыняўшы Яго ў сэрца свае, той асабліва ў гэты слаўны Дзень Ягонага Уваскрасеньня разам з Ангеламі на вышынях Нябесных прабывае, і падобна Жонам Міраносіцам радасьці свае паўстрымаць ня можа! Кожны для яго ўжо мілы брат, кожнага ён ужо сьпяшыць абняць, Вялікодным пацалункам абдараваць, яму сказаць: Браце! ХРЫСТОС УВАСКРОС! І ў гэты слаўны мамэнт ён ужо сьветлая частачка містычнага Цела Хрыстовага: сьвятое Царквы Яго, адзін Дух зь Ім, а гэтым і спадкаемца несьмяротнасьці (1 Кар. 6, 17).

І калі прарокі, натхнёныя Духам Сьвятым, толькі прадбачылі гэтую вялікую перамогу Хрыста над сьмерцю, і ўжо радасна ўсклікалі: „Сьмерць! дзе тваё джала? Пекла! дзе твая перамога?" (Ос. 13, 14), дык як жа маем радавацца мы, калі Хрыстос ужо сьмерць і пекла перамог, і нам жыцьцё вечнае падараваў! Таму, вось, мы й заклікаем вас: Радуйцеся! Радуйцеся й нахнёна дзякуйце Хрысту за гэтую Ягоную бязьмежную Міласьць для нас. Радуйцеся так, як радаваліся нашыя пабожныя продкі на Вялікдзень, калі ўся нашая любая Радзіма была адным суцэльным морам радасьці, калі ўсе абыймалі сябе ўзаемна, і натхнёна прамаўлялі: ХРЫСТОС УВАСКРОС! — ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС! І ня было сярод іх ніякае варожасьці, а была толькі Хрыстовая, Нябесная Любоў! У гэтым часе зямля нашая злучалася зь Небам, усе як ангелы славілі Хрыста, і Ён радаваўся разам зь імі, багаслаўляў іх.

І гэтаю іхнаю радасьцю, гэтаю Любоўю Хрыстоваю мы й цяпер жывем, змагаемся, і пераможам. Бо мы сьвята верым, што прыйдзе час і: „Усе ворагі Хрыстовыя будуць паложаныя да падножжа ног Яго" (Пс. 110, 1), і гэты час ужо блізкі. Ужо дрыжаць, як тыя старажы пры Гробе Яго, усе слугі злога духа! Ужо напаўняюцца вераю ў перамогу ўсе воі Хрыстовыя: нашыя браты ў сёстры дома, на катаргах і высылках, душамі сваімі ўспрыймаюць зараніцу Уваскрасеньня Хрыстовага, праменьне Міласьці Яго, і натхнёна ўсклікаюць: ХРЫСТОС УВАСКРОС!

А мы тут у вольным сьвеце ўзмоцнім гэтую іхную надзею на перамогу. У Сьвятле Уваскрасеньня Хрыстовага няхай шчэзьне сярод нас атрута злога духа: нязгода, сваркі, а запануе Любоў Хрыстовая. Абыймем адзін аднаго, назавем братамі й тых, што ненавідзяць нас, па слову Яго: „Як палюбіў Мяне Айцец, так і Я палюбіў вас, каб вы прабывалі ў Любові Маёй" (Іо. 15, 9).

Будзем жа такімі мілымі Яму, Хрысту, бо Ён не жадае перамогі над ворагамі шляхам Свае Усемагутнасьці, а шляхам Свае бязьмежнае Любові. Таму й мы пойдзем па гэтым шляху Яго, і будзем пэў-

ныя, што Хрыстос толькі гэтага й чакае ад нас, хоча, каб сіла Ягоная праявілася ў гэтай усё перамагаючай Любові Яго. Тады Ён споўніць усе нашыя пажаданьні ў большай меры, чым мы навет спадзяемся. Ад зьзяньня Сьвятла Ягонага Уваскрасеньня ў сэрцах нашых напэўна станецца цуд: „Рассыплюцца ворагі Яго, і ўцякуць перад абліччам Ягоным усе, што ненавідзяць Яго" (Пс. 68, 2), і ўваскросьне да новага, вольнага й шчасьлівага жыцьця нашая пакутніца Маці-Беларусь!

І ў гэтай Веры й Надзеі Мы натхнёна вітаем вас, усечэсныя Айцы, любыя Браты й Сёстры, і ўвесь наш Вялікі Беларускі Народ зь Вялікім, Сьветлым і Радасным Сьвятам, перамогою й трыумфам Неба й зямлі, бязьмежнай Міласьцяй Божай для нас: УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ, ВЯЛІКАДНЕМ! Радуйся й весяліся Беларускі Народзе! З глыбіняў сэрца натхнёна сьпявай хвалу Госпаду: ЗАПРАЎДЫ ХРЫСТОС УВАСКРОС! Уваскросьне й нашая любая Радзіма на радасьць, шчасьце й спасеньне нашае, бо для гэтага Ён зь Неба прыйшоў, памер і УВАСКРОС!

**Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прычасьце Сьвятога Духа няхай будзе з усімі вамі. АМІНЬ.**

**СЬМІРЭННЫ АРХІЕПІСКАП СЕРГІЙ**
**Глава Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў**
**Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае**
**Царквы**

СЬМІРЭННЫ АРХІЕПІСКАП **ВАСІЛІ**
Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў
**БАПЦ на Чужыне.**

Дана Году Божага 1964
месяца травеня
**Аўстралія-Амэрыка.**

## МАЛІТВА

### ПРАЧЫТАННАЯ ЎЛАДЫКАЮ ВАСІЛІЕМ У СЭНАЦЕ ЗША З НАГОДЫ 46-х УГОДКАЎ 25-га САКАВІКА

У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа. Усематутны Божа, Ойча наш Нябесны! Натхнёнымі сэрцамі сваімі мы зьвяртаемся ў малітве да Цябе, і просім Твайго Боскага багаславенства для нашае краіны, Злучаных Штатаў Амэрыкі, і для нашага Высокадастойнага Прэзыдэнта. Абдары Тваёю мудрасьцю й сілай, узмацні й прасьвятлі Духам Тваім Сьвятым сэрцы ўсіх сяброў Сэнату гэтага, гэтай цьвярдыні супакою, справядлівасьці й свабоды.

Прадвечны Божа й Спасе наш! Мы горача молім Цябе сяньня: пашлі Тваю Боскую Ласку й Апеку нашаму Беларускаму Народу, які 46 год таму здабыў сваю Незалежнасьць: абвесьціў сувэрэнную Беларускую Народную Рэспубліку, і які на працягу ўсяго гэтага часу не перастаў змагацца за сваё вызваленьне ад бязбожных тыранаў

у надзеі на тое, што з дапамогаю Божаю й ён будзе цешыцца тою воляю й свабодаю, якія зьяўляюцца асноваю жыцьця ў Злучаных Штатах Амэрыкі.

Мы молімся сяньня, каб дабрадзействы свабоды, якія прыносіць дэмакратычны лад усяму вольнаму сьвету, паслужылі добрым прыкладам і заахвочаньнем Беларускаму Народу, бо ідэя багаслаўленае Богам свабоды ня згасла сярод яго. І цяпер яна, як палымянны сьветач, гарыць у глыбінях сэрцаў яго з непахісным намерам стацца сябрам сям'і свабодных і Богу верных народаў сьвету.

Мы з пакораю схіляем галовы свае перад Табою, Божа й Спасе наш, і зь Вераю молім Цябе: прымі гэтую Малітву нашую, багаславі Злучаныя Штаты Амэрыкі, і нашую Маці-Беларусь.

Няхай цудоўнае імя Тваё, у Прэсьвятой Тройцы Адзінага Бога нашага: Айца, і Сына, і Сьвятога Духа жыве, пануе й зьзяе ў сэрцах нашых, славіцца й багаславіцца цяпер, і заўсёды, і навекі вечныя. Амінь.

**Натальля Арсеньнева**

## КАМЯНІ Й КАЛАСЫ

Прапяяў пявун раз, і яшчэ раз . . .
Тройчы . . .
Ўхутаў попел вуглі, зрасянела трава,
узялося на сьвет, —
а Хрыстовыя плечы
бізуну не дадзела крывавіць ды йрваць . . .
Так устаў новы дзень, захлынаўся:
„Варраву"!
Прыглядаўся, як пільна мые рукі Пілат,
і лічыў — і зьбіваўся — град кропляў крывавых
на Сьвяцейшым Чале,
і . . . адводзіў пагляд.
Крыж. Нясьцерпны цяжар. Сьпека даўкая. Вочы
Маці. Прыпар . . . Веранічын ручнік . . .
Аж нарэшце —
Гальгофа,
боль, што вырвацца хоча
дзіка, крыкам з грудзей,
ды на іх —
камяні . . .
У каменьні сівым
супачыла слабое,
бяз крывінкі, слухмянае Цела,

камень
да Яго прыгарнула вялізарны
боязь,
сьвет прыгас, прыцямнеў . . .
ды ці сходаеш дзень?
Ён устаў,
ён расьцьвіў
весьні, водырны, чысты,
серабрыстай лялеяй у пырсках расы.
Дзень ускрос,
як Хрыстос,
што Рукою Прачыстай
ідучы, баслаўляў
у палёх каласы . . .
Узьняліся за ноч яны порстка над руняй
і сьпявалі,
аж песьняй брыняла зямля.
Усьміхаўся ім ветла ускрэслы Раввуні,
пахіляўся
і сьвет веснавы баслаўляў.
Баслаўляў,
каб далі
хлеб галодным, ня камень,
каласы,
каб сінелі ў жытох васількі,
каб у кожнай дарозе
йшоў Госпад із намі,
а мы
зь верай нязьвернаю крочылі
зь Ім!

# ПОМНІ...

## Я — ПАСТЫР ДОБРЫ

Асабліва цяпер, у часе Уваскрасеньня Хрыстовага, Вялікадня, калі мы, ня гледзячы на ўсе нашыя цяжкасьці, клопаты, на ўсе страхі на сьвеце, радуемся й весялімся, паставім сабе пытаньне: чаму? Чаму ў гэтыя слаўныя дні ўсе нашыя беды й смуткі зьнікаюць, душы й сэрцы нашыя радуюцца, напаўняюцца супакоем, задаваленьнем, пэўнасьцю, надзеяй?

Адказ на гэтае пытаньне нязвычайна важны для нас, бо ён аснова нашага жыцьця, нашых посьпехаў, нашага дабра й шчасьця цяпер і навекі. Адказу гэтага нам шукаць, ці выдумоўваць ня трэба.

Яго далі нам ужо пракорокі ды найбольшы наш аўтарытэт: Сам Уваскрослы Хрыстос, Бог і Спас наш. Ён Сам сказаў: „Я Сьвятло сьвету. Хто пойдзе за Мною, той ня будзе хадзіць у цемры, але будзе мець сьвятло жыцьця" (Іо. 8, 12). Іншым разам Ён сказаў: „Я — дзьверы. Хто ўвойдзе празь Мяне, спасён будзе, і ўвойдзе, і выйдзе, і ПАШУ знойдзе", і: „Я Пастыр Добры, і авечкі Мае слухаюцца голасу Майго, і Я ведаю іх, і яны йдуць за Мною" (Іо. 9, 27).

А хто гэта гаварыў нам пра Добрага Пастыра ўжо тысячу год перад Хрыстом? Гэта нам гаварыў той, які сказаў ад імя Яго: „Усе косьці Мае можна пералічыць. Яны-ж глядзяць на Мяне, быццам на відовішча. Яны дзеляць вопратку Маю паміж сабою, і аб адзежы Маёй кідаюць жэраб'е" (Пс. 22, 18-19). Гэта сказаў прадок Давід. Таму мы можам мець давер да яго, бо-ж ужо ведаем, што ў часе сьмерці Хрыстовае на Крыжы запраўды косьці Яго можна было пералічыць, і масы засьлепленага народу на чале з сябрамі Сынэдрыону глядзелі на Яго як на відовішча, насьмяхаючыся над Ім, і жаўнеры дзялілі вопратку Яго, і кідалі жэраб'е. Так сталася!

Таму такі, Духам Сьвятым натхнёны чалавек Божы, мог таксама сказаць: „Гасподзь ёсьць Пастыр мой, і ў нічым я ня буду мець нястачы. На пасовішчах зялёных Ён пасьвіць мяне, і да водаў сьвежых Ён вядзе мяне. Навет у даліне ценю сьмяротнага я не баюся напасьці, бо Ты са мною" (Пс. 23:1, 2, 4).

Давід мог так прыгожа й велічна гаварыць пра Хрыста, як пра Пастыра Добрага, ня толькі таму, што быў праракам, але й таму, што сам быў пастырам, пасьвіў авец, таму дакладна ведаў, як гэта добра для авец, калі яны маюць любячага іх мудрага пастыра.

Як міла й прыемна нам, як мы пачуваем сябе пэўнымі, супакойнымі, калі ведаем, што мы знаходзімся пад апекаю любячага нас Добрага Пастыра, Каторы мае ўладу на Небе й на зямлі! Давід ня раз зь вялікаю радасьцю ўсклікаў: „Калі Ты, Госпадзі, са мною, хто супраць мяне! Многа разоў ён быў у вялікіх клопатах і небясьпеках, але ўсё гэта толькі ўзмацняла ягоную пэўнасьць і любов да Госпада. І адсюль Давід прыйшоў да перакананьня, што Хрыстос ягоны асабісты Добры Пастыр, Каторы дасканала забясьпечыць яго добраю пашаю: дасьць яму усё патрэбнае для цела й для душы.

І ўсім галодным і смагнучым душам ён апавяшчае, што Добры Пастыр вядзе іх да супакою, задаваленьня, насычэньня. І так як сумленны пастыр стараецца прывясьці авец сваіх на пажыўную зялёную пашу, дзе яны могуць у супакоі пасілкавацца ,так Давід усьцяж думае пра свайго Добрага Пастыра, Каторы ўзмацняе, насычае, радуе й натхняе душу яго.

Псальміст робіць далейшы крок, каб даць нам паўнейшы абраз

Добрага Пастыра, прадстаўляючы Яго нам як мудрага Правадыра, Каторы прыводзіць нас на цяжкую дарогу змаганьня, бо хоць гэта й цяжкая дарога, але адзіная для нашага дабра, дасканаленьня й спасеньня. Для авец дарога неразлучная частка іхнага жыцьця. Давід у сваёй практыцы пераканаўся, што Боскі Пастыр заклікае кожнага на шлях гэтага цяжкога падарожжа. Пры гэтым ён увесь час зьвяртае нашую ўвагу на тое, што Добры Пастыр стала вядзе нас тут. Ён мае і плян, і мэту, і Ён мае ў Сваёй апецы кожнага такога падарожнага. Жыцьцё нашае, усклікае Давід, можа быць цудоўна харошым! Усё гэтае нашае падарожжа пад кіравецтвам Хрыста можа быць радасным для нас! Ярмо працы можа быць лёгкім для нас. Ніякія небясьпекі ня страшныя! Прысутнасьць Добрага Пастыра забясьпечвае нам цудоўны плён, бо перамогу за перамогаю на гэтым шляху! Вось чаму Давід ня толькі палымянна любіць Добрага Пастыра свайго, але й славіць Яго, пяе хвалу Яму, і ўсьцяж радуецца зь Ім.

Трэйці абраз Добрага Пастыра дае нам Давід у часе сваіх найбольшых цяжкасьцяў і турботаў, бо ня толькі ў часе сонечных радасьцяў Добры Пастыр вядзе. Тут Давід дае нам абраз звычайнага пастыра авец, які часам вядзе іх па вельмі небясьпечных горных узбоччах, каб за імі знайсьці даліну з сачыстаю зялёнаю пашаю. Каб асягнуць гэта, пастыр ня гоніць, а вядзе авец праз вузкія пераходы, дзе на кожным кроку вялікая небясьпека й сьмерць магчымая. Сумленны, любячы сваіх авец, пастыр кіруе гэтым цяжкім пераходам з найбольшаю ўвагаю, рупнасьцю й дасьветчаньнем.

Урэшце пераход зроблены, і зялёная сакавітая паша для авец забясьпечаная. Цудоўны абраз! Таму псальміст і ўсклікае: вось так Добры Пастыр, Хрыстос, Сваёю любоўю й мудрасьцю служыць тым, што йдуць за Ім! Бясспрэчна, наш жыцьцёвы шлях поўны церняў, закрутаў, узбоччаў, небясьпекаў, чорных хмараў. Часта на ім няма ані капкі сьвятла. Правадыр неабходны. Нехта, што мае розум, добрае сэрца й моцную руку можа ўратаваць ад ліха й страху.

Давід ня толькі сваім розумам і сэрцам, але й сваім жыцьцём добра пазнаў Хрыста-Бога, каб прадставіць нам Яго як Добрага Пастыра, Каторы ўсё можа зрабіць, і забясьпечыць кожнага, хто толькі слухаецца голасу Яго, усім патрэбным. Давід радуецца ў думках сваіх, што Добры Пастыр вядзе ня толькі на шлях цяжкасьцяў, але й цудоўна памагае нам у гэтым нашым жыцьцёвым змаганьні, і бясьпечна праводзіць празь іх, спасае, душы нашыя ўзмацняе, здасканаляе, і прыводзіць нас на цудоўнае духовае пасовішча: да зьзяючых вышняў Свае бязьмежнае Нябеснае радасьці!

Вось так натхнёны аўтар дае нам велічны, захапляючы абраз

Добрага Пастыра, Каторы мудра й зь любоўю вядзе ў цудоўны дом кожнага з нас у канцы нашага падарожжа. Зямны пастыр робіць гэта для сваіх авец. Яны давяраюць яму, бо ведаюць, што ён прывядзе іх на ноч да ўтульнага схову. Тым болей можа цешыцца кожны той, хто давярае Яму, Хрысту, як Добраму Пастыру свайму: ён можа быць пэўным, што на яго чакае вечны дом, прыгатаваны для яго Боскім Пастырам, дзе радасьць нявымоўная й вечная!

Таму помні аб гэтым, дарагі чытачу! Помні асабліва цяпер, і асабліва ў краіне, у якой жывеш. Табе часта здаецца, што на тваім шляху няма ніякіх церняў і небясьпекаў, бо-ж такі вялікі дабрабыт, і ты можаш рабіць усё, і мець усё, чаго пажадаеш. Вялікі гэта самаабман! Як ты можаш пераканацца ў гэтым, пакуль ня прыйдзе нейкая бяда? Вельмі проста: стала думай аб тым, ці ўсё, што ты робіш, згодна з Навукаю Добрага Пастыра? Як часта ў Нядзельку сьвятую ты, замест пайсьці за Ім у сьвятую Царкву Яго, застаешся дома, або йдзеш на гулянкі! А запытайся ў Яго, што Ён табе на гэта скажа? А Ён жа толькі дабра табе жадае! Таму толькі Яму давярай, бо-ж Ён за цябе на Крыж пайшоў, таму жадае табе дабра ня толькі цяпер, але й навекі. Таму ўва ўсякіх сваіх сумлівах нікога іншага ня слухай, бо асабліва цяпер зьявілася многа фальшывых прарокаў на зямлі, якія стараюцца табе зло спрычыніць, душу тваю загубіць.

Нажаль, цяпер няма палымянных прарокаў, гатовых пайсьці на сьмерць за Праўду Божую. Для прыкладу возьмем прарока Міхея. Ізраэльскі кароль Ахаў ды Юдэйскі Ёзафат пастанавілі пайсьці вайною супраць Сырыйскага караля. Для пэўнасьці яны паклікалі 400 прарокаў і запыталіся ў іх, ці яны згодныя з іхнаю пастановаю? Так, адказалі гэтыя падлабузьнікі, згодныя. Тады Ёзафат сказаў: паклічам яшчэ Міхея, паслухаем, што ён скажа. І сказаў Міхей: „Як Бог жыве, так я скажу тое, што Ён скажа мне" (3 Цар. 22, 14). І сказаў Міхей: пойдзеце на загубу вашую. І кінулі яго ў цямніцу, і пайшлі запраўды на загубу, бо кожнае слова Божае было, ёсьць і будзе толькі — праўда.

Вось быў чалавек, які не баяўся сказаць праўду, які ня даў сябе падкупіць, не спалохаўся таго, што 400 фальшывых прарокаў і самыя каралі з раднікамі сваімі былі іншае думкі. Не, ён адважна сказаў тое, што сказаў яму Бог, не зважаючы на ніякія кары. Дзе цяпер такія адважныя, што бясстрашна выпаўняюць Слова Божае? Нажаль, не відаць. Наадварот, усе сьпяшацца пагадзіцца з фальшывымі прарокамі, з моцнымі блуднага сьвету гэтага і можа нясьведама йдуць на загубу. А яна цяпер бясконца горшая, чым тая, якую прадсказаў Міхей, бо там была загуба цялесная, а тут пагражае загуба душаў.

А што-ж тут можа зрабіць кожны з нас? Кожны помні адно: слухай Добрага Пастыра навет тады, калі-б з гэтага паўстала табе нейкая прыкрасьць, ці матар'яльная страта, бо-ж Ён тут кажа нам: Якая карысьць чалавеку, калі ён навет увесь сьвет здабудзе, але душы сваёй пашкодзіць? Гэта раз, а два: усе мы хочам быць вольнай і незалежнай нацыяй, мець сваю сувэрэнную дзяржаву. Будзем мець? Будзем! Калі? Толькі тады, калі нас будзе вясьці Ён, Хрыстос, Пастыр Добры.

Таму стала помні аб гэтым. Помні асабліва цяпер, калі Ён ня толькі за нас памер, але й Уваскрос! Гэтым Ён канчальна пацьвердзіў тое, што адказаў на запытаньне Кайяфы: Скажы нам, запраўды Ты Сын Божы? Так, адказаў Хрыстос, ты сказаў! І ў часе Свайго Уваскрасеньня Ён гэта ўжо ПАКАЗАЎ! Паказаў усім, што маюць вочы й вушы. Таму, што трэба кожнаму з нас цяпер зрабіць? Толькі адно: пастарацца, каб Ён уваскрос у сэрцы кожнага з нас! Стаўся нашым Правадыром, Пастырам! І калі ты гэта зробіш, і кожны з нас гэта зробіць, тады з намі будзе Ён, наш Пастыр Добры! Тады Ён напэўна прывядзе нас, як любых духовых авец Сваіх, у наш утульны дом ужо тут на зямлі: у нашую вольную й незалежную Беларусь! Вось жа, помні аб гэтым! ЗАПРАЎДЫ ХРЫСТОС УВАСКРОС!

**С. Клім**

## ВЕРА

Дарагія Браты й Сёстры!

Вера была, ёсьць і будзе галоўнай зброяй чалавека ў змаганьні з усякім злом, як і вучыць нас сьв. вярхоўны Апостал Павал: „ А панад усё вазьмеце шчыт Веры, якім зможаце затушыць распаленыя стрэлы крывадушніка" (Эф. 6, 16). Так, толькі яна, Вера, памагае нам перамагаць усе цяжкасьці й спакусы нашага жыцьця. Яна ў нашым змаганьні за дабро й праўду вядзе нас да супакою, задаваленьня, радасьці. Таму нашыя пабожныя продкі й улажылі мудрую пагаворку: Бяз Бога — ні да парога.

Нашая сьв. БАПЦарква добра разумее гэтае дабро нашае. Таму Яна ўсякім спосабам стараецца памагчы нашым суродзічам узмоцніць Веру ў Бога, а гэтым і любоў да бліжняга, да брацкага сужыцьця ўсіх, да паўстаньня сярод нас дружнай сямейкі, якая бы магла лягчэй тушыць усе распаленыя стрэлы розных крывадушнікаў, і такім чынам узмоцніла-б нашую надзею на лепшае заўтра.

Заданьне гэтае вялікае, цяжкое, але яно й сьвятое. Яно адпавядае імкненьням усіх тых нашых слаўных самаахвярных змагароў, якія душы свае аддалі, каб Праўда Божая закрасавала на Радзіме нашай, каб жыла Бацькаўшчына. Яны многа дабра зрабілі для нашага пакутнага народу. Яны пакінулі нам слаўную спадчыну, а ся-

род яе й нашую сьв. Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, як адзіную крыніцу Ласкі Божае да нас. Вось жа, толькі Яна можа зьдзейсьніць нашыя сьвятыя імкненьні: злучыць нас з Богам, крыніцаю нашага дабра, шчасьця, перамогі й славы.

Таму толькі Яна дакладна выясьняе нам значэньне залатых словаў: у грамадзе — сіла. Ясна, у грамадзе, асноваю якое ёсьць Вера ў Бога, і любоў да Бацькаўшчыны. І гэтае апошняе таксама сьвятое пачуцьцё, бо-ж яго асьвяціў Сам Спасіцель наш, Каторы плакаў над доляю Свайго народу, зь якога паходзіў па плоці, над доляю роднага Яму Ерусаліму. І, пасылаючы Сваіх Апосталаў на пропаведзь сьв. Евангельля, Ён запаведаў ім пачынаць яе ад роднага Яму Ізраэльскага народу. І таксама дзеля гэтага нашая родная сьв. БАПЦарква, згодна з гэтым Запаветам Хрыстовым і пасьля Апостальскім, зьяўляецца Царквою Нацыянальнаю, Царквою Беларускаю. Яна зьяўляецца адзіным нашым цэнтрам, які можа аб'яднаць усіх нашых суродзічаў. Яна — пашыральнік Веры ў беларускім асяродзьдзі. Таму аб'еднаньне ўсіх нашых суродзічаў вакол сьв. БАП-Царквы павінна стацца заданьнем, быць у душы й сэрцы кожнага сьведамага Беларуса.

Нашая сьв. БАПЦарква ёсьць Беларускаю ад свайго пачатку поўнасьцю й непадзельна. Таму Яна нашая родная сьв. Маці, а Маці толькі адна. Вось жа, яна Маці ўсіх Праваслаўных Беларусаў. Мы жадаем і молім Бога, каб сьв. БАПЦарква засталася назаўсёды нашым правадыром да сьветлае будучыні, да супакою, ладу посьпехаў, і нашае Беларускае славы як тут н а выгнаньні, так і там — у Вольнай і Незалежнай Беларусі.

Чаму мы адыйшлі ад іншых цэркваў, якія свайго часу духова панавалі ў нашай Бацькаўшчыне, і цяпер хацелі-б гэтае самае рабіць? А таму, што яны ня былі для нас роднымі мамамі, а мачахамі, і мы хочам не празь іх, а праз сваю родную сьвятую Маці мець беспасярэднія дачыненьні з Богам. Мы хочам, згодна з Навукаю Самога Ісуса Хрыста й Апосталаў, каб Господзь Бог быў нам блізкім, родным так, як родным нам ёсьць свой Беларускі Народ, свая родная сямейка ды адвечная спадчына яе.

Злучэньне ўсіх Праваслаўных Беларусаў вакол сьв. БАПЦарквы гэта вызваленьне духа нашага народу, нашых слаўных продкаў. Гэта аснова адраджэньня нашае апрычонасьці, самабытнасьці, велічы. Беларуская дзяржаўнасьць заіснуе толькі тады, калі ў нашым народзе заіснуе свой моцны Беларускі дух, а гэты дух пераможна заіснуе толькі тады, калі мы праз нашую Веру ўвойдзем у беспасярэднюю лучнасьць з Богам безь ніякіх чужых пасярэднікаў. Толькі тады Бог станецца крыніцаю духовае моцы, славы й перамогі як кожнага

з нас паасобку, так і ўсяго нашага народу, а гэтым і нашае дзяржавы.

Кожнае дзіця родзіцца зь вялікай спадчынай сваіх бацькоў. Шмат чаго яно атрымоўвае пасьля ў сваім узгадаваньні. Мы ўсе падобныя тварам, а зусім пэўна, што й духова ў шмат чым падобныя да сваіх бацькоў ды ўзгадавальнікаў. Нажаль, нашае ўзгадаваньне было ўва многім рознае й шкоднае нам як нацыі: кожны панявольнік Беларускага Народу ўзгадоўваў нас пасвоему. Такое шкоднае ўзгадаваньне вельмі дрэнна ўплывала на нас: мы бачым кругом толькі абман. Таму й цяпер існуе сярод нас ня мала нянавісьці брат на брата, і гэта якраз і ёсьць адзнакаю варожага нам чужога ўмешваньня ў выхаваньне нашых новых пакаленьняў.

Таму я заклікаю ўсіх пазбыцца гэтае варожае атруты: нянавісьці да свайго брата — Беларуса. Трэба ведаць, што кожны можа мець свой пагляд на ўсякую справу. Кожны думае пасвоему, і гэта ў парадку. Нажаль, сярод нас ёсьць ня мала й такіх, што думаюць на карысьць чужых, і гэта блага. Але, дзякаваць Богу, ня гэта ўжо галоўнае сярод нас. Галоўнае іншае, а менавіта: выбачайце сабе ўзаемна, і „адпускайце даўгі”, каб і вам было адпушчана. Старайцеся зразумець брата свайго й памагчы яму пазбыцца чужога спосабу думаньня. Мужна стойце на шляху Веры, і волі НАШАЕ, жывеце згодна з Словам Божым, усё рабеце на славу Яго й нашага народу заўсёды й усюды. Калі будзеце цьвёрдымі на шляху Веру й гэтае волі нашае, вы далучыце да сябе ўсіх тых, што яшчэ блудзяць па чужых шляхох, а калі будзеце такімі, якімі вас хочуць бачыць адвечныя ворагі нашыя, або фальшывыя прыяцелі: хісткімі, нерашучымі, малаверным, да сьвятое справы нашае абыякавымі, тады разгубіце й тое, за што пралілі мора крыві верныя й мужныя сыны й дочкі народу нашага.

Няхай жа гэта ня станецца. І мы верым, што ня станецца. Няхай нашая цьвёрдая Вера й палымянная любоў да волі разбудоўвае Валадарства Божае ў нашым Беларускім Народзе. Няхай мацуе нашую родную сьв. БАПЦаркву, як носьбіта магутнасьці й славы нас усіх і ўсяго нашага Беларускага Народу.

**Мітраф. Прат. а. Сьцяпан Войтэнка**

## СЛУГІ АНТЫХРЫСТА ДЗЕЮЦЬ

У 1963 г. прэса вольнага сьвету апублікавала зварот прыхажанаў Пачаеўскае Лаўры, дзе падаваліся нялюдзкія чыны савецкай паліцыі з мэтай закрыцьця Лаўры. Цяпер мы маем такі самы зварот праваслаўных беларусаў зь Менску праз аднаго французкага турыста, які там пабываў і гэты зварот прывёз у вольны сьвет. Зварот вернікаў зь Беларусі падае нам шэраг жахлівых фактаў, з да-

памогаю якіх багаборцы стараюцца атруціць душы людзей, асабліва дзяцей. Вось у скарочаньні гэты зварот праваслаўных вернікаў Беларусі да Праваслаўных Патрыярхаў.

З пакораю схіляючы калені перад Вашымі сьвятымі стапамі, просім Вас прыняць да ведама наступнае: у 1959 г. антыхрыст пачаў страшны перасьлед Праваслаўнае Царквы ў Саветах. Спачатку было забаронена дзецям прыслужваць епіскапам у Царкве, ня гледзячы на пратэсты бацькоў. У 1960 г. ў Менску ўпаўнаважаны рэспубліканскі прадстаўнік Кавалёў і абласны Лаўрыенка забаранілі высьвяціць магілы на Радаўніцу. Па ўсёй Беларусі былі зьніжаныя цэны на іконы, сьвечкі ды іншыя царкоўныя рэчы з мэтамі пазбавіць цэрквы прыбыткаў і так зачыніць іх.

Пасьля былі зачыненыя й зруйнаваныя архіерэйская й Козыраўская цэрквы ў Менску, а ў 1962 г. зачыненая Сенінская Царква. У 1961 г. было забаронена хадзіць у Царкву й прычашчацца Сьвятых Хрыстовых Тайнаў дзецям ад 3 да 18-ці год. Дайшло да такіх зьдзекаў над нашымі дзяцьмі, што Лаўрыенка стаіць ля Кафедральнага Сабору ў Менску й глядзіць, каб дзеці не ўваходзілі ў яго. Калі-ж заўважыць там дзіця, ён зьвяртае на гэта ўвагу старасьце Сабору Велічку Мілу, а той, як служка антыхрыста, бярэ дзіця й аб сьценку галавою, як было, напрыклад, з хлопчыкам удавы С. Шурыкам, які адмовіўся выйсьці з Сабору. Маці Шурыка, як пабожная жанчына, узгадоўвае сваіх дзяцей у рэлігійным духу, і за гэта церпіць зь дзяцьмі страшны перасьлед. Спачатку да яе прыйшоў сьледчы Шымараў, зьняў з сьцяны іконы, сабраў рэлігійныя кнігі, перапісаныя Акафісты й Малітвы, зьняў з ложка апошняе прасьціradла, завярнуў у яго ўсе гэтыя рэчы, і хацеў забраць з сабою таксама й самую С., хоць у яе былі хворыя дзеці, але яны пачалі крычаць і не даваць маці. Тады за С. заступіўся сусед і перешкодзіў гэтай барбарскай справе.

Скора пасьля гэтых зьдзекаў да С. уначы прыходзілі няведамыя людзі, моцна стукалі ў дзьверы й пачалі ламацца ў пакой, але перапалоханыя дзеці паднялі страшны крык, і яны зьніклі як нячыстыя духі. Далей за ёю ўсьцяж сачылі, каб схапіць яе на вуліцы, але зь ёю ўсюды хадзілі дзеці. Апрача такіх зьдзекаў, да С. прыходзілі Кавалёў і Лаўрыенка, каб адабраць ад яе дзяцей, Апошні сказаў ёй: цяпер для дзяцей веруючых будуюцца інтэрнаты, каб яны былі зусім ізаляваныя ад бацькоў. Хутка пасьля гэтага С. з дзяцьмі зьнікла, і дзе яны, ніхто ня ведае.

Грамадзянка Р. К. зь Менску таксама водзіць сваіх дзяцей у Царкву, і таксама страшна перасьледуецца. Яе некалькі разоў выклікала Арлова, дырэктар школы, у якой вучацца ейныя дзеці.

Яна казала Р. К.: вы калечыце сваіх дзяцей, узгадоўваючы іх у рэлігійным духу. Урэшце сказала: мы будзем вас судзіць за гэта, а дзяцей вашых забярэм у інтэрнат. Мне ўжо тэлефанавалі з Госздраву, што вас забяруць у псыхіятрычны шпіталь.

Пры такіх зьдзеках немагчыма ўзгадоўваць дзяцей у рэлігійным духу. Як настаўнікі, так і няверуючыя вучні стараюцца адбіць нашых дзяцей ад Царквы, нацкаваць іх супраць бацькоў. Цэлы год бацькі ў Менску рабілі захады перад уладамі, каб іхныя дзеці маглі хадзіць у Царкву й прычашчацца. Яны высылалі дэлегацыі ў Маскву, зьвярталіся да Брэжнева й Хрушчова, пісалі ў „Ізвестія", але надарэмна. Зьвярталіся й да патрыярха. Патрыярх даў наказ прычашчаць дзяцей, але духавенства Менску пакарылася антыхрысту, і гэтага загаду ня слухае.

20-га траўня 1963 г. было царкоўнае сьвята ў Жыровіцах. На сьвята зьяўленьня Іконы Жыровіцкае Маці Божае зьехалася многа людзей з усяго Савецкага Саюзу. Але прыехалі й упаўнаважаныя зь Менску й Горадні, і забаранілі Багаслужбы. Апрача гэтага, забаранілі таксама прыймаць студэнтаў у Духоўную Сэмінарыю ў Жыровіцах. Добрым пастырам няма жыцьця ад антыхрыста.

А вось выпадак зьдзекаў, які здарыўся ў Пачаеве. Уначы з 5 на 6-га жнівеня пачаеўская міліцыя хадзіла па хатах і выганяла паломнікаў з кватэраў. Грамадзянка Р. Д. зь Менску была ўначы выгнаная на вуліцу, хоць і мела пасьветчаньне аб хваробе. Да самае раніцы яна сядзела й дрыжала ад холаду пад тарпою саломы на ўскраіне Пачаева.

Вельмі просім Вас забараніць мясцовым уладам забіраць грошы з цэркваў і манастыроў і ўжываць іх на будову тэатраў, кінаў і г. д. Няхай гэтыя ахвяры йдуць толькі на патрэбы манастыроў і цэркваў. Зьвяртаем Вашую ўвагу: Жыровіцкі манастыр вось-вось будзе зачынены. Зь любоўю просім Вас не дапусьціць да гэтага. Вось яшчэ выпадкі зьдзеку багаборцаў над праваслаўнымі й духавенствам. Гэтым летам сьвяшчэньнік гораду Горкі, Магілеўшчына, адпраўляў сьв. Літургію. У часе Службы бязбожнікі крыкнулі: пажар! У выніку заварушаньня 5 асобаў страцілі жыцьцё, 15 былі цяжка параненыя, а нявінны сьвяшчэньнік адданы пад суд. Два гады таму тое самае сталася ў Слуцку на Вялікоднай Літургіі. Бязбожнікі кінулі там дымавую бомбу.

Вашыя Сьвяцейшаствы! Мы ўпэўненыя ў Вашай вялікай, ласкавай і неабходнай нам дапамозе! ПОДПІСЫ.

## А ШТО РОБІЦЦА Ў ВОЛЬНОМ СЬВЕЦЕ?

Перадусім, ці ўсе вы, мамы, так дбаеце аб душах дзетак сваіх: прыводзіце іх з сабою ў Царкву, прычашчаеце, як гэта стараюцца

раδіць вашыя сёстры там у няволі? Ці вы павінны сароміцца перад імі? Падумайце аб гэтым добра.

Палажыць канец зьдзекам багаборцаў, слугаў антыхрыста, над душамі няшчасных паняволеных людзей можа толькі: 1) Аб'яднаньне ўсіх хрысьціян і 2) рашучы выступ сілы духа іх пад сьцягам Крыжа Хрыстовага супраць сілаў пякельных. Нас цешыць спатканьне Патрыарха Атэнагораса I з Папаю Паўлам VI ды іхнае жаданьне аб'яднаць усіх хрысьціян на асновах любові Божае. Нас цешыць таксама, што ў Рыме плянуецца адкрыцьцё „Перманэнтнага Панхрысьціянскага Бюра" дзеля гэтых мэтаў. Патрыарх Атэнагорас I ў сувязі з гэтым сказаў: Калі-б прыйшло да стварэньня ў Рыме такога воргану, то гэта была-б падзея ў гісторыі Царквы, якая сваім значэньнем перавысіла-б навет Ватыканскі Сабор.

Так, запраўды, у хрысьціянскім сьвеце пачаліся вялікія падзеі. I калі галовы Цэркваў зразумеюць вагу гэтых падзеяў ды сваю адказнасьць перад Хрыстом-Богам цяпер, то можам мець добрыя надзеі. Мы толькі баімося таго, каб слугі антыхрыста ня выперадзілі іх сваімі ўласнымі жахлівымі падзеямі.

## ХРОНІКА

НОВАЯ РАДАСЬЦЬ Сьв. БАПЦарквы. Нашая царкоўная грамада ў Адэлаідзе, Аўстралія, невялікая. Але вялікае было яе жаданьне пабудаваць сваю Сьвятыню, і Бог багаславіў яго: дзякуючы вялікім высілкам Настаяцеля, вернікаў і невялікай помачы зь іншых краінаў, тут была пабудаваная вялікая й прыгожая Царква. I ня дзіва, што 28-29-га сьнежня 1963 г. вернікі сьв. БАП Царквы ў Адэлаідзе перажылі вялікую радасьць. У гэтыя дні адбылася высьвячэньне іхнае Царквы, першага Памятніка Беларускіх выгнанцаў на вольнай аўстралійскай зямлі. Запраўды, радасьць вялікая ўсіх Беларусаў!

Чын высьвячэньня выканалі: Глава сьв. БАПЦарквы Высокапрэасьвяшчэньнейшы Архіепіскап Сергій, і Прэасьвяшчэньнейшы Варлаам, Епіскап сьв. УАПЦарквы ў саслужэньні Настаяцеля, мітр. прат. а. Міхаіла Шчурко, Архімандрыта Даніеля й а. Папоса з Грэцкае Правасл. Царквы, а. Аляксандра з Мэльбурну, а. протадыякана Андрэя, і а. дыякана Васілія. На Багаслужбе быў прысутны мэр Адэлаіды Сп. Хаймарш. Урачыстасьці былі ўзмоценыя прыгожым сьпевам падвойнага Хору пад кіравецтвам рэгента Сп. Словачэўскага.

Саборная Архіерэйская Служба Божая й мэлёдыйны сьпеў Хору нязвычайна ўсхвалявалі сэрцы ўсіх вернікаў, якія натхнёна маліліся да Госпада Бога, узрушана дзякавалі Яму за Ягоную Ласку й помач у памысным заканчэньні свае Сьвятыні, у якой яны будуць славіць Яго, любага Айца свайго Нябеснага, і маліцца за свой шматпакутны Беларускі Народ, за сваю церпячую Маці-Беларусь ды паказваць моладзі шлях нашае перамогі й славы.

Схілім жа ўсе галовы свае перад нашымі самаахвярнымі й пабожнымі суродзічамі ды іхным Настаяцелем у Адэлаідзе, і горача падзякуем Высокапрэасьвяшчэньнейшым Уладыкам Сергію й Варлааму, усім Высокадастойным Айцом, рэгенту братняга нам украінскага народу й Хору, і натхнёна ўсклікнем: Слава Табе Божа наш, слава Табе!

НЮ-ЁРК. Я быў малады й пастарэў, і ніколі ня бачыў праведніка апушчанага, ані дзяцей яго просячых хлеба! Ды: Праведнік радуецца ў Госпадзе!

кажа прарок. Залатыя словы! Гэтую праўду мы пабачылі пры абходзе нашых прыхажан і сёлета з Крашчэнскаю Вадою. Відаць, што сваёю любоўю да нашае сьв. Царквы яны здабылі Ласку Божую. Бо ня толькі няма сярод іх нікога, просячага хлеба, а наадварот, яны ўсьцяж павялічваюць свой дабрабыт і радуюцца ў Госпадзе.

Усе яны цешыліся й радаваліся, што Хрыстос завітаў да іх з Іардану, прынёс ім Сваё Боскае багаславенства праз Уладыку Васілія, якому памагалі Сп-ры М. Тулейка, Б. Данілюк, Я. Казьлякоўскі й Я. Ніхаёнак. Усе ня толькі дзякавалі ім сваёю гасьціннасьцю, але й шчодрымі ахвярамі на наш Кафедральны Сабор, дзякуючы чаму нашая Царкоўная Каса ўзбагацілася сумаю ў 550 даляраў. Слава Богу на вышынях, і шчырая падзяка нашым прыхажанам.

САКАВІКОВЫЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ. І цяпер былі выданыя Праклямацыі Губэрнатарам Штату Нью-Ёрк і мэрам Нью-Ёрку аб тым, што Дзень 25-га Сакавіка зьяўляецца Днём Беларускае Незалежнасьці. Наступным радасным для нас мамэнтам было прачытаньне Малітвы за Амэрыку й за нашую Маці-Беларусь Уладыкаю Васіліем у Сэнаце ЗША ў Вашынгтоне.

Прэзыдэнт Сэнату завёў Уладыку Васілія на сваю трыбуну, і абвесьціў: Архіепіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы Васілі прачытае Малітву. Усе сэнатары й тыя на галэрцы ўсталі, і Уладыка Васілі мэлядыйна прачытаў яе, за што Прэзыдэнт прыгожа яму падзякуваў, і сказаў: а цяпер Вы госьць наш, можаце паслухаць нашыя дэбаты.

Зараз-жа Уладыку пачалі вітаць многія сэнатары й жадаць яму свабоды Беларусі. Акрамя сэнатараў Джэвітца й Кіцінга, яго віталі Старшыні рэспубліканцаў і дэмакратаў у Сэнаце: Дырксэн і Мэнсфілд, сэн. Лауш з Огайё ды інш. Усе яны выявілі сваю ахвоту сфатаграфацца зь ім ды іншымі сябрамі Беларускае дэлегацыі: др. С. Станкевічам, М. Тулейкам і Сп-няю Бартуль. Наступна нашая дэлегацыя зложыла прыгожы вянок ад БАЗА на магіле сьв. п. Прэзыдэнта Д. Кеннэды, дзе Уладыка Васілі прачытаў адпаведныя малітвы. З браку месца мы ня можам падаць поўнага абраза гэтае ўрачыстасьці, а яна была імпануючая. Скажам толькі, што нашую дэлегацыю нязвычайна ветліва прыняла й суправаджала спэцыяльная вайсковая старожа там. Вялікая тут падзяка Сп. Б. Кіту, які шмат у чым памог нашай дэлегацыі ў Вашынгтоне.

І сёлета Служба Божая Уладыкі Васілія ў Нядзелю 22-га сакавіка была нязвычайна ўрачыстая. Шчырыя сэрцы ўсіх вернікаў у захапленьні пялі гімн падзякі Госпаду Міласэрнаму за Ягоную Ласку да нас, за наш векапомны Акт 25-га САКАВІКА. І гэтым гімнам падзякі Госпаду й нашае радасьці была й натхнёная пропаведзь Уладыкі, у якой ён, між іншым, казаў: Ужо выходзяць зпад вады нашыя легендарныя Званы, Замкі й Гарады! Званы нашае сьв. БАПЦарквы ўжо звоняць нам! Яны ўжо выйшлі зпад вады! Ужо й нашыя Замкі й Гарады ўсклікаюць: Жыве Беларусь! Упяршыню гэта сталася 25-га Сакавіка, у слаўны Дзень Абвешчаньня Сувэрэннае Беларусі! І ніхто ўжо не затопіць іх!.. Вельмі прыгожа пяяў Хор пад кіравецтвам Сп. А. Каптуровіча. Служба Божая закончылася Малебнам, і нашым царкоўным гімнам: Магутны Божа.

Пасьля адбылася Акадэмія, і сёлета супольная зь іншымі беларускімі арганізацыямі, і была даволі ўдалая, асабліва мастацкая частка яе.

ТОРОНТО, КАНАДА. 10-цігадовы ЮБІЛЕЙ ПРАТАІЕРЭЯ а. МІХАІЛА МАЦУКЕВІЧА. Мінула 10 год, як Высокапрэасьвяшчэньнейшы Уладыка ІЛАРЫОН, Мітрап. сьв. УГПЦарквы ў Канадзе, на просьбу Уладыкі Васілія, рука-

палажыў а. Міхаіла ў сан Іерэя. У той час а. Міхаіл ужо атрымаў дыплём Ліцэнцыята Багасловія ў Духоўнай Сэмінарыі сьв. Андрэя ў Вінніпэгу. Па Вялікадні, 2-га травеня, у Саборы сьв. Пакравы а. Міхаіл быў рукапаложаны ў сан дыякана, а 6-га травеня 1954 г., у дзень сьв. Юрага, у Кафедральным Саборы сьв. Тройцы, у сан Сьвяшчэньніка. Сваю першую сьв. Літургію а. Міхаіл адслужыў у суботу, 8-га травеня, пад наглядам свайго былога Прафэсара, а. Грыгорыя Мецюка, цяперашняга Архіепіскапа Эдмантонцкага Андрэя.

Ужо па традыцыі прат. а. Міхаіл і сёлета наведаў сваіх вернікаў з Крашчэнскаю Вадою ў такіх местах: Торонто, Гамілтон, Брантфорд, Бары, Ангус, Садбуры й Лондан. Зь ініцыятывы Сп. М. Шуста а. Міхаіл наведаў цяпер з сьв. Вадою й Дэтроіт. Дзеля дрэннае пагоды ў заплянаваныя дні ён ня змог наведаць Ашаву, Кічанэр, Гуэлф і Стратфорд. Усе радасна віталі а. Міхаіла, дзякавалі за адведзіны й прасілі не забывацца аб іх у будучыні. Айцец Міхаіл складае гэтта шчырую падзяку за дапамогу Спп. М. Ганько, В. Целешу, Б. Кірку з Торонто, Д. Курыловічу, Я. Боўшару, В. Прыстаўку з Садбуры; М. Шусту, Л. Жураўскаму, М. Бубновічу, В. Іваноўскаму з Лондану, і С. Сажыцу з Дэ.

У Нядзелю, 15-га сакавіка, адбыўся Гадавы Сход прыхажанаў Парафіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Торонто. Дзеля добрае працы, уся папярэдняя Рада на чале з Сп. В. Целешам была перавыбраная на наступную кадэнцыю ў складзе: В. Целеш, Б. Кірка, М. Кулеш, М. Алексеевіч і Я. Баран. У Наглядную Раду выбраныя Спп. В. Навіцкі, М. Ганько й М. Шуст. Шчасьці Божа!

САДБУРЫ. Беларуская калёнія тут ужо ня раз чынна праявіла сваю любоў да нашае сьв. Царквы. Апрача звычайных грашовых складак, летась нашыя суродзічы тут ахвяравалі прыгожае Аблачэньне для нашае сьв. Царквы. Сёлета, усімі Беларусамі паважаныя, нашыя мілыя вернікі Марыя й Васіль Прыстаўкі ахвяравалі для нашае Церквы Чашу, Дыскас і Зьвязьдзіцу. Запраўды, цудоўны падарунак! Сп-ву М. і В. Прыстаўкам і ўсім Садбураўцам ад нас, Таронтаўцаў, ад усяго сэрца гэтта складаецца шчырая-шчырая падзяка.

КЛІЎЛЭНД. Нашая Парафія ЖБМАЦІ тут добра працуе й узмацняецца. Дня 16-га лютага тут адбыўся Агульны Сход, які распачаўся малітваю „Цару Нябесны". Дасюляшняя Царкоўная Рада працавала вельмі добра, за што й атрымала абсолюторыюм з падзякай. Падзяка была выказаная й: Бел. Жаночаму Згуртаваньню за ахвяраваньне Іконы, Сп-вам Валюкевіч, Літвінко, Радзюк і Сп. Міхальчыку за ахвяраваныя падсьвечнікі, а Сп. Скабеліну за ахвяру Дарахраніцельніцы. Упаўнаважаных да галасаваньня было 72 асобы.

У склад новае Царк. Рады ўвайшлі: Сп. С. Карніловіч, Старшыня; Сп. А. Яраховіч, Заступнік; Сп. М. Гумен, Сакратар; Сп. М. Ягаўдзік, Скарбнік; Сп. М. Пэнда, Царкоўны Стараста; Сп. А. Лук'янчык, Сп-ні К. Каляда, й В. Шпэндзік, Сябры. У Рэвізійную Камісію: Спп. А. Семенчук, У. Літвінко й У. Дунец. Сход закончыўся малітваю „Дастойна Есьць". Шчасьці Божа!

---

Высокапрэасьвяшчэньнейшых Уладыкаў нашых, Архіепіскапаў СЕРГІЯ й ВАСІЛЯ, Высокапрэпадобных Архімандрытаў, Мітрафорных Пратаіерэяў, Пратаіерэяў, Прэпадобных Айцоў, дастойных Рэгентаў і Харыстых, Хвальныя Царкоўныя Рады, Брацтвы й Сястрыцтвы, дзяржаўныя, навуковыя й грамадзкія Установы, усіх вернікаў сьв. БАПЦарквы, чытачоў „Царкоўнага Голасу", і ўвесь наш Вялікі Беларускі Народ сардэчна вітаем з радасным Вялікаднем: ХРЫСТОС УВАСКРОС!

**ЕПАРХІЯЛЬНАЯ УПРАВА БАПЦ АМЭРЫКІ Й КАНАДЫ.**